Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

19 лістапада 1997 года
СЕРАДА
№ 68
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 750 руб.
Цана ў розніцу — 1000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА





*Осень, осень — твоё прощальное крыло...*

Фото А.ГАНЧУКА.

## Будзе новы маршрут

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Не лепшыя часы перажывае зараз калектыў аўтапарка N14. Хаця, па праўдзе сказаць, сёлета ёсць станоўчыя зрухі, крыху палепшылася фінансавае становішча. Дык аднаўляйце ранейшыя маршруты аўтобусаў, раяць і падказваюць з усіх бакоў кіраўніцтву аўтапарка.

Адкрыць зноў рух аўтобуса, напрыклад, Івацэвічы-Міронім, гэта значыць, як падлічылі спецыялісты, толькі за адзін месяц нанесці аўтапарку страт на 9-10 мільёнаў рублёў. Ні капейкі прыбытку. Вось і думай, што заробіць шафёр аўтобуса на такім маршруце.

Так што аднаўляць, а тым больш адкрываць новыя маршруты цяпер не спяшаюцца. І ўсё ж яны, нягледзячы на цяжкасці, будуць.

Так, з першага снежня, раз у тыдзень, па пятніцах, у 21 гадзіну 20 хвілін, з аўтавакзала будзе адпраўляцца аўтобус у Юрчыкі – праз Няхачава, Гошчава і Косава. Ці будзе гэта навагоднім падарункам пасажырам, пакажа час. Але факт застаецца фактам, просьбы грамадзян пачутыя, новаўвядзенне павінна задаволіць іх.

## Спірт пад арыштам

**БЯРОЗА.** Праваахоўныя органы раёна папярэдзілі незаконны вываз спірту з Пескаўскага спіртзавода. 23 тоны моцнага напою лаўкачы былі намераны даставіць у Расію.

Дзіву даешся, як гэта можна такую колькасць спірту ўкрасці з тэрыторыі завода?





## МЯСЦОВЫ

## Масква талентам верыць

**БАРАНАВІЧЫ.** Павысіць узровень навучання ў ліцэі N1 дапаможа дагавор аб супрацоўніцтве, заключаны паміж гэтай навучальнай установай і Маскоўскім дзяржаўным універсітэтам імя М. В. Ламаносава.

Паводле слоў дырэктара ліцэя Аляксандра Арцюха, падпісанне гэтага дакумента ініцыіравалі прафесары МДУ, якія прымалі ўдзел у міжнароднай канферэнцыі маладых вучоных, што адбылася ў Баранавічах. Несумненна, на іх зрабілі ўражанне шматлікія перамогі ліцэістаў у міжнародных конкурсах.

Дарэчы, у ліцэй паступіла ўжо з МДУ метадычная літаратура, а група выкладчыкаў прыродазнаўчых навук адправілася на стажыроўку ў Маскву. Акрамя таго, баранавіцкія ліцэісты атрымалі запрашэнні паўдзельнічаць у расійскіх навуковых канферэнцыях, турнірах, алімпіядах і конкурсах. У адпаведнасці з дагаворам, з Масквы ў Баранавічы будуць прыязджаць выкладчыкі, якія прачытаюць лекцыі як для настаўнікаў, так і для вучняў. Найбольш таленавітыя выпускнікі ліцэя змогуць прадоўжыць навучанне ў прэстыжнай расійскай ВНУ.

## Вучыся, Італія!

**БАРАНАВІЧЫ.** Члены італьянскай дэлегацыі па справах моладзі былі здзіўлены той вялікай і разнастайнай работай з маладымі людзьмі і падлеткамі, якую праводзіць цэнтр «Дапамога» ў горадзе. Клубы па інтарэсах, гурткі, дыскатэкі, псіхалагічная дапамога, па якую звяртаецца моладзь па тэлефоне амаль круглыя суткі, — далёка не поўны пералік добрых спраў «Дапамогі».

Італьянцы высока ацанілі работу гарадскога аддзела адукацыі аб выхаванні моладзі і сказалі, што многія яго метады прыменяць у сябе на радзіме.

## Крама харчамі багата

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Зусім нядаўна стабільна працуючыя крамы Баранавіцкага АРЗа НАД-2 паступова апусцілі ветразі. Асабліва летась яны адчулі на сабе суровы подых "рынкавага сацыялізму". Чыгуначны магазін, што працаваў у Івацэвічах, зачыніў, прадаўцам аб'явілі аб скарачэнні, тавары вывезлі.

Спатрэбіўся амаль год, каб у аддзеле рабочага забеспячэння зразумелі: ганлёвыя плошчы не павінны пуставаць,іх трэба выкарыстоўваць па назначэнню. Пасля невялікага рамонту ў краму завезлі знооку харчовыя тавары. Іх выбар даволі шырокі, а цэны на некаторыя прадукты таннейшыя, чым у гарадскіх крамах. Зазірніце ў чыгуначны магазін. Там рады вас абслужыць.



ПА-СУСЕДСКУ МЫ ЖЫВЁМ

# ДЗЕНЬ ЗА ДНЁМ

## Граніца на замку

*ПІНСК. Да аховы дзяржаўнай граніцы Беларусі з Украінай прыступіў Пінскі пагранічны атрад. Пад яго апекай восем пунктаў пропуску.*

Асноўнай задачай пагранічнікаў тут з'яўляецца забеспячэнне адпаведнага кантролю, выяўленне і выкараненне нелегальнай міграцыі, кантрабанды, а таксама папярэджанне супрацьпраўнай дзейнасці ў пагранічны.

## Адкуль у калгасе мільярды?

*ЛЯХАВІЧЫ. Не пераводзяцца грошы на банкаўскім рахунку калгаса «Ляхавіцкі».*

На дзейнасць гаспадаркі не ўплываюць ні час, ні крызісы, ні парытэт цэнаў. За першае паўгоддзе зароблена уласных сродкаў 13,6 мільярда рублёў. Адкуль яны? Перш-наперш ад рэалізаваных 176 тон буйной рагатай жывёлы і 1390 тон малака. І гэта не проста мясная і малочная прадукцыя, а высакаякасная.Гэты момант падкрэсліваюць у калгасе не з мэтай паказаць сябе з лепшага боку. Якасць – гэта грошы. Рэалізуючы жывёлу ў вазе больш за 420-470 кг, гаспадарка ўзнялася на найвышэйшую шкалу закупачных цэн і на кожнай тоне, у адрозненне ад іншых гаспадарак, атрымлівае дадатковa 600-700 тысяч рублёў. Для дасягнення гэтага ў калгасе не вынаходзілі нейкіх асаблівых метадаў. Усё банальна проста і ўсім даўно вядомае: добрае кармленне і догляд жывёлы.

## Аўтамабільны матрыярхат

*ІВАНАВА. Цяпер у групе з 35 чалавек, якія вучацца на вадзіцеля катэгорыі «В» у спартыўна-тэхнічным клубе Беларускага абароннага спартыўна-тэхнічнага таварыства, усяго восем мужчын, астатнія — жанчыны.*

У вёсцы Моталь, дзе арганізавана такая ж група будучых вадзіцеляў, з 23 слухачоў 19 – жанчыны. Па сведчанні старшыні спартклуба А. Шумака, тэндэнцыя да ўсталявання аўтамабільнага матрыярхату намецілася ў 1995 годзе. З таго часу прадстаўніцы слабой палавіны нашага грамадства пачалі масава набываць правы вадзіцеля аўто.

## Піце піва, мужыкі!

*ПРУЖАНЫ. Трэці год працуе ў райцэнтры ўласны піўны цэх, які выпускае 14-працэнтнае піва цёмнае «Віскулі» і піва светлае «Пружанскае».*

Магутнасць цэха – 12 тысяч літраў у суткі, аднак з-за таго, што няма неабходнай тары, цэх варыць столькі напою за тыдзень.

Заснавальнікі прадпрыемства — райсельгасхімія, калгас «Рассвет» і сам калектыў цэха — закупілі ў Польшчы і цяпер вядуць мантаж нямецкай лініі па разліву піва ў бутэлькі. Магутнасць замежнага абсталявання ў два разы перавышае цяперашнюю.

## Тэатр на колах

*СЛОНІМ. Больш за 6 тысяч аматараў сцэнічнага мастацтва горада і раёна паглядзелі ў кастрычніку на сцэне свайго драматычнага тэатра спектаклі «Жаніцьба Бальзамінава» і «Камедыя».*

Дзецям больш пашанцавала. Для іх у рэпертуары тэатра значыцца чатыры пастаноўкі, з якімі таксама пазнаёміліся юныя гледачы Зэльвы, Мастоў, Навагрудка, Ліды, Слуцка, Салігорска, Стаўбцоў, Баранавічаў, Пінска.

Цяпер рэжысёры тэатра Мікалай Варвашэвіч, Васіль Сявец і Віктар Небальсін працуюць над новымі пастаноўкамі для дзяцей. А Мікалай Варвашэвіч, плюс да ўсяго, яшчэ рыхтуе сучасную камедыю для дарослых «Мы ідзём глядзець «Чапаева».

*(Па старонках абласных газет).*

ДЗЕЦІ І МЫ

# Канікулы са «Смакам»

*Мінулі восеньскія канікулы. Разнастайнымі і цікавымі яны былі для гуртkoўцаў Івацэвіцкага Дома дзіцячай творчасці. Кожны дзень быў насычаны карыснымі і вясёлымі мерапрыемствамі. Праводзілася вучоба школьнага актыву, ладзіліся конкурсна-гульнёвыя праграмы «Смак» і «Тайна зялёнага лесу», збіраў сваіх сяброў «Восеньскі баль».*

*Радасцю свяціліся вочы дзяцей, калі праводзілася конкурсна-гульнёвая праграма «Смак». Яе ўдзельнікі падзяліліся на каманды «Здобныя булачкі» і «Блінцы». Рабяты паказалі, як яны ведаюць беларускія нацыянальныя стравы, ці ўмеюць іх гатаваць, ці валодаюць кулінарнымі здольнасцямі. Асаблівае ажыўленне выклікалі музычныя конкурсы «Танец з яблыкамі» і «Апельсінавы рай».*

*Каманда «Блінцы» з разрывам у адно ачко апярэдзіла «Здобных булачак». Абедзьве каманды атрымалі прызы.*

*Валерыя КРУС, вучаніца 5 класа СШ №3 г. Івацэвічы, юнкор Дома дзіцячай творчасці.*





*НА ЗДЫМКАХ: падчас правядзення «Смаку».*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

ЭКОНОМИЧЕСКИЙ ТУПИК?

# «Белорусское экономическое чудо»: за счет долгов и инфляции

В экономике есть два определяющих показателя: сколько произведено и во что это обошлось. Если издержки превышают рост производства, то производитель принимает решение, как минимум, об остановке роста производства убыточной продукции, как максимум, — о прекращении производства вообще. Этого требует теория предельного продукта и предельной производительности труда. Иначе неизбежно разорение и потеря накопленного капитала.

Сравнивая статистические показатели роста в Беларуси производства ВВП, промышленной и сельскохозяйственной продукции с источниками поддержания этого роста за три квартала 1997 года, приходишь к выводу — Республика Беларусь стоит сегодня перед аналогичным выбором. Ведь прекращение объёмов производства, так сказать, валовых показателей и сравнение их с ростом всеохватывающей задолженности свидетельствует не о преодолении кризиса и связанных с ним трудностей, а о накоплении потенциала этих трудностей. Так, если взять ВВП, то, согласно официальной статистике, его объём за 9 месяцев 1997 года в сравнении с соответствующим прошлогодним периодом увеличился на 10,5 процента, а производство промышленной продукции — почти на 16 процентов. Но если посмотреть в глубь процессов, то окажется, что для такого оптимизма нет никаких оснований. Ибо объём производства ВВП, например, в сентябре составил 39,3 триллиона рублей. Чистое совпадение, но ровно столько же составила просроченная кредиторская задолженность, а общая сумма кредиторской задолженности достигла 131,2 триллиона рублей (или более половины всего ВВП, полученного за три квартала 1997 года). Значит, чтобы погасить только просроченную задолженность по кредитам, хозяйствующие субъекты страны должны пожертвовать всем объемом ВВП, полученным за сентябрь!

Можно возразить, что долги предприятий не односторонни. Действительно, дебиторская задолженность также росла в течение текущего года и достигла к концу сентября 104,4 триллиона рублей. Но дебиторская задолженность росла более высокими темпами, чем производство. Это лишь усугубляет ситуацию, ибо свидетельствует об имеющихся у производителей трудностях с реализацией продукции, то есть, о низкой ее конкурентоспособности.

Не следует забывать и то, что кредиторская задолженность существенно превышает дебиторскую — на 26,8 триллиона рублей. Мало сказать, что экономический рост за счет этого источника только обостряет экономические противоречия в стране и чреват массой отрицательных последствий. Сложившееся балансирование роста производства за счет задолженности уже начало сказываться на темпах прироста производства в сентябре. Эти темпы стали затухать, а в некоторых отраслях даже заметен спад. Так, в сентябре рост ВВП в сравнении с августом составил только 0,2 процента. В расчете на год — это лишь 2,4 процента роста вместо 10,5 процента, которые мы имеем за 9 месяцев 1997 года. В сентябре в сравнении с августом снизили объемы производства электроэнергетика, топливная промышленность, промышленность стройматериалов, машиностроение и металлообработка, уменьшился грузооборот на транспорте. В промышленности в целом снизили производство 233 предприятия, или 11 процентов от общего числа.

Сложно говорить и о неких положительных сдвигах в сельском хозяйстве Беларуси. Программа роста производства зерна просто не выполнена. Как свидетельствует официальная статистика, в первоначально оприходованном, то есть бункерном виде прирост по сравнению с 1996 годом составил 584 тысячи тонн, а валовый сбор, то есть амбарный — только 209,9 тысячи тонн. На 2 миллиона тонн меньше собрано картофеля. По данным на 1 октября, поголовье крупного рогатого скота сократилось на 3 процента, свиней — на 2 процента.

Видимо, в связи с трудностями и спадом в некоторых отраслях белорусской экономики, руководство страны в последнее время все меньше рекламирует так называемый рост. Собственно говоря, нет оснований для самовосхваления. Особенно если учесть, что в значительной степени рост производства продукции обеспечивает не потребителей, а пополняет запасы на складах. На начало сентября промышленные предприятия накопили в своих хранилищах продукции на сумму около 16 триллионов рублей. Плюс к этому — товарные запасы нереализованной продукции в розничной торговле, составляющие сегодня более 9 триллионов рублей. И это можно было предвидеть, ибо темпы роста цен все же опережали рост производства. Как ни подавляли инфляцию, а потребительские цены в сентябре в своем росте (5 процентов) в два с половиной раза перекрыли установленный государством предел (в 2 процента). Всего же за 9 месяцев 1997 года цены на потребительском рынке повысились на 51 процент. Государство проявило удивительное искусство двойного стандарта по отношению к инфляции. С одной стороны, политика подавления инфляции (подчеркнем: подавления, а не преодоления), например, посредством административного поддержания нереального валютного курса рубля, а с другой — поощрение инфляции.

С начала 1997 года рост эмиссии денег, а вследствие этого — и рост рублевой денежной массы (РДМ) примерно в 1,5 раза опередил прирост ВВП. После этого чего ж удивляться , что в сентябре инфляция вновь пошла вверх!

Инфляция и долги буквально блокируют экономику. Так , если приплюсовать к кредитной задолженности еще и возросшую задолженность в сфере внешней торговли (а она составила за 8 месяцев года 1182 миллиона долларов США, или более 29 триллионов рублей), то результативность экономического роста в Беларуси в текущем году будет не просто нулевой, а с минусом.

Даже рост поступлений денежных ресурсов в бюджет в значительной степени обусловлен не положительными изменениями в производстве, а лишь непераспределением того небольшого общественного продукта, производимого в народном хозяйстве, и тех жалких доходов, которые получает население. Неопровержимым доказательством этого является то, что за три квартала нынешнего года бюджет на 44 процента формировался в своей доходной части не за счет налога на прибыль, а за счет косвенных налогов — налога на добавленную стоимость, давшего 30,3 процента поступлений в бюджет, и акцизов (13,8 процента). Если к этому приплюсовать государственный «сбор» с инфляции, то станет очевидным, за счет чего происходит рост доходной части бюджета. Между тем, в это же время совершенно не вводятся в действие рычаги, способные реально не просто подавлять, а преодолевать инфляцию. Речь, прежде всего, о денационализации. Если бы государство определенную часть приватизированной государственной собственности превращало в акции и продавало населению, то это сокращало бы спрос на рынке товаров и услуг и цены не росли бы такими темпами, как сегодня.

К сожалению, так называемый экономический рост и сам по себе сильно обостряет финансовую ситуацию в стране. Мало того, что общая рентабельность промышленного производства остается в пределах 10-12 процентов, так вдобавок к этому остается высокой задолженность по заработной плате. На начало октября 1997 года она составила 631,1 миллиарда рублей. Особенно велика эта задолженность в сельском хозяйстве, прежде всего в колхозах. А разве истинный экономический подъем может сопровождаться таким негативным явлением? Значит, существуют глубинные причины, которые надо находить и преодолевать, а не блефовать успехами.

Кого может убедить этот блеф, если среднемесячный размер пенсии (а в стране — 2,6 миллиона пенсионеров) составляет только 42 процента от среднемесячной зарплаты и 63 процента от минимального потребительского бюджета. Может быть, в правительстве кто-то знает, где взять пенсионерам более трети средств, недостающих для прожиточного минимума?

*В. КУЛАЖЕНКО, доктор экономических наук, профессор. (БелаПАН).*

КРЫМІНАЛ

## Пусці госця ў хату...

Малады чалавек з вёскі Бусяж запрасіў да сябе ў госці свайго сябра Аляксандра Д. з горада Косава. Маці падрыхтавала добры пачастунак. Познім вечарам яна пайшла адпачываць, а сябры засталіся за сталом, каб прадоўжыць сваю размову і застолле.

У час перакуру гаспадар выйшаў з хаты, а госць застаўся. Гэтую паўзу ён і выкарыстаў, каб прыкарманіць залатыя рэчы, якія зняла з сябе гаспадыня перад сном і паклала за кнігі ў шафу.

Застолле працягвалася дапазна. Госць пераначаваў у свайго сябра.

Калі ў доме грамадзянкі П. заўважылі адсутнасць пячаткі, ланцужка, кольца і кулона, то ўжо было позна: былы госць іх прадаў у Косаве і Івацэвічах.

Па факту крадзяжу залатых рэчаў узбуджана крымінальная справа. Вядзецца следства.

*А. ГЛУШЭНЯ, начальнік крымінальнага вышуку Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*

## Забойцы на пераездзе

У Брэсцкай вобласці напрыканцы кастрычніка праводзілася аперацыя "Пераезд". Даішнікі ўзялі пад кантроль амаль усе перакрыжаванні чыгуначных і асфальтавых шляхоў.

На жаль, адразу ж пасля заканчэння аперацыі група моцна п'яных маладых людзей, сярод якіх былі спецыялісты саўгаса, збілі на пераездзе ля вёскі Міцковічы пешахода, які на месцы памёр. Ліхачы зніклі, скінуўшы аўтамабіль у кар'ер. Аднак ад міліцыі ім не ўдалося ўцячы. Вядзецца следства. Суд высветліць ступень віны кожнага з хватаў.

*П. НАГНІБЕДА. Баранавіцкі раён.*

● ПОСТ ДАІ

# Аварыя. Што за ёй?

***Мінула залатая восень, а на змену ёй прыйшла позняя, з туманамі, дажджамі, мокрым снегам. У гэты час на дарогах нават днём вельмі небяспечна (дрэнная бачнасць, коўзкае пакрыццё), не гаворачы ўжо пра начны час. Менавіта пры такім надвор'і і адбываецца большасць здарэнняў на нашых дарогах. Вось свежыя прыклады.***

27 кастрычніка раніцай на алімпійскай трасе (161-ы кіламетр) легкавая аўтамашына БМВ, выехаўшы на паласу сустрэчнага руху, сутыкнулася з аўтобусам. Шафёр Э. Нікаленка з Брэста атрымаў цялесныя пашкоджанні. Выведзены са строю аўтобус. У гэтым выпадку магло быць і горш. У салоне знаходзіліся дзеці, якіх везлі на заняткі ў школу райцэнтра. Ніхто, на шчасце, сур'ёзна не пацярпеў.

Прычыны гэтага здарэння вядомыя: дрэнная бачнасць у ранішні час, няўважлівасць вадзіцеля і, па-мойму, галоўнае – перавышэнне хуткасці шафёрам іншамаркі.

Іменна з-за гэтага адбылася трагедыя каля вёскі Любішчыцы вечарам у апошні дзень кастрычніка. Вадзіцель «Фальксвагена» А. Каўбічэнка зрабіў наезд ззаду на прычэп з дровамі, які цягнуў трактар. Шафёр загінуў на месцы. Моцна пашкоджаны трактарны прычэп.

Наступныя здарэнні, пра якія пойдзе гаворка, звязаны непасрэдна з веласіпедыстамі.

Пенсіянер А. Гамаліцкі з вёскі Гічыцы 21 кастрычніка раніцай вырашыў паехаць па справах у Івацэвічы на сваім веласіпедзе. На паўдарозе ў райцэнтр ён быў збіты машынай МАЗ з Целяханскага доследнага лясгаса. Пенсіянер папаў у бальніцу з цялеснымі пашкоджаннямі.

Падобны выпадак адбыўся 12 лістапада ў Няхачаве. Іншамарка «Форд» наехала на веласіпедыста А. Ляховіча, які ў цяжкім стане дастаўлены ў бальніцу.

Абодва названыя здарэнні адбыліся раніцай, калі быў паўзмрок і не рассеяўся туман, калі бачнасць на дарозе зусім дрэнная. Хто ж тут вінаваты? Вы скажаце, што надвор'е, якое не спрыяла паездкам. Так, надвор'е стварыла цяжкасці для руху, бо быў густы туман. Ці можна было нават і ў такіх умовах пазбегнуць наездаў на веласіпедыстаў? Можна. І як ні дзіўна, вінаваты ў большасці самі веласіпедысты, бо іх верныя «коні» не былі зусім абсталяваны для выезду на дарогі з інтэнсіўным рухам. Адсутнічалі ліхтары белага і чырвонага колеру, святлоадбівальнікі чырвонага колеру ззаду. Такі неабсталяваны веласіпед разам з яго ўладальнікам пры абмежаванай бачнасці і становіцца перашкодай, якую вадзіцелі заўважаюць у самы апошні момант, калі спыніць машыну немагчыма.

Канешне, ніхто не здымае віны і з вадзіцеляў, якія былі неасцярожнымі, няўважлівымі, не выбралі патрэбнай у тых складаных умовах хуткасці.

Набліжаецца зіма. Нас чакаюць завеі, мяцеліцы, галалёд. Бяспека кожнага чалавека будзе залежаць ад усіх, хто выязджае і выходзіць на дарогу, хто ніколі не грэбуе правіламі руху.

*Л. ДЭЦУК,*
*камандзір узвода дарожна-патрульнай службы Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*

● АЛЛО, РЕДАКЦИЯ?

## Что за штука – пейджер?

*— Постоянно теперь слышу слово «пейджер». Но ни в одном словаре его толкования нет. Объясните, что это за штука?*

*В. ПРОКУРАТ (г. Берёза).*

Подсчитано, что 60% всех получаемых человеком сообщений не требуют ответа, а значит, довольно часто вместо телефона достаточно иметь миниатюрный приемник-сигнализатор (пейджер) – радиотехническое устройство персонального вызова, на дисплее которого высвечивается передаваемая информация. Носить его можно всегда с собой – в кармане, на поясе или в руке.

Чтобы передать сообщение, достаточно позвонить по телефону на узловой центр и, назвав номер абонента, продиктовать текст. Предположим: «Милая, я задержусь. Забери из садика сына». Оператор введет его в компьютер и передаст в эфир. Ваш абонент получит его практически в тот же момент.

Если у вас есть свой компьютер, вы можете переслать сообщение в центр по модему, и оно будет передано в эфир минуя оператора, что обеспечит полную конфиденциальность.

Интенсивное развитие систем радиовызова началось в 60-е годы. Первоначально радиус действия был ограничен территорией предприятия, но значительно расширился с переходом на диапазоны ОВЧ и УВЧ.

Система была опробована в районах с высокой плотностью населения в Токио в 1963 г. и в еще 11 регионах Японии. Затем была распространена на территорию США и Европы. В Старом Свете к полезной новинке отнеслись более прохладно. До сих пор наиболее передовыми в отношении приемников радиовызова остаются жители стран Юго-Восточной Азии, за ними следуют американцы.

● ПРАВІНЦЫЯЛЬНЫЯ ГІСТОРЫІ

## ІЗУМРУД – ГЭТА МЫ

У райцэнтры адкрыўся невялікі магазін з інтрыгуючай назвай «Ізумруд». Пакупнікі адразу паспяшаліся туды. На паліцах хлеб, малако, каўбасы, гарэлка, цукеркі, адэкалон, цыгарэты і іншыя тавары, як у звычайным магазіне.

— А дзе ж той ізумруд? — запытала ў прадаўцоў, маладых прыгожых дзяўчат, самая цікаўная пакупніца.

— А мы, — усміхаючыся, адказала адна з іх.

— Хіба што, — засвяціўся ўсмешкай твар той жа жанчыны.

## ДЗЕ БУЎ, ТАМ БУЎ...

На добрым падпітку Пятрук увайшоў у хату, распрануўся, сеў на канапу, пацягнуўся.

— Дзе буў? — без усялякага ўступу пачала жонка.

— Дзе буў? Дзе буў? — нібы дражнячыся, паўтарыў пытанне гаспадар і адказаў:

– Дзе буў, там буў...

— Так дзе ж усё-ткі буў? — яшчэ раз перапытала гаспадыня, спадзеючыся, відаць, пачуць ужо канкрэтны адказ.

— Дзе буў, там буў, — зноўку тое ж самае паўсонным голасам паўтарыў ён, засынаючы, як кажуць, на паўслове.

*К. ДЗЯМЧУК.*





● ЗДАРЭННІ

## Пажарныя не праспалі

А праспалі, пэўна, вартаўнікі, не заўважыўшы як загарэўся адзін са складоў Баранавіцкага райспажыўсаюза. Але спрацавала супрацьпажарная сігналізацыя і дзяжурная брыгада службы 01 аператыўна выехала на месца здарэння. Агонь утаймавалі, выратаваны матэрыяльныя каштоўнасці, ацэненыя ў 200 мільёнаў рублёў.

Някепска было б пажарных заахвоціць. Лішняя, з рызыкай для жыцця зробленая капейка, ох як патрэбна для паляпшэння боегатоўнасці тэхнікі пажарных.

*(Наш кар.).*

"Газета для вас"

**КУПОН**
для бясплатнай прыватнай аб'явы

ТЭКСТ
______________________________
______________________________
______________________________
______________________________

Прозвішча, імя і адрас
(звесткі не публікуюцца):

● СТОП-КАДР

## Удивительный вопрос

*Спросила у лошади автомашина:*
*—А сколько в тебя наливают бензина?*
*Лошадь подумала:*
*— Вот чудеса!*
*Наверно, она переела овса.*
*Римма АЛДОНИНА.*
*Фото А. ГАНЧУКА.*








Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 17 лістапада ў 14.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

Нам. рэдактара Аляксандр ЛАЎРАНЮК.
НАШ АДРАС: 225250, г.Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя "Газеты для вас".
Тэлефон: 8 (245) 2-12-29.

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры перадрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

*Тыраж 1100.*
*Заказ 2736.*